# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 17 (31) 18—24 чэрвеня 1993 г. Кошт 5 рублёў


**У КАРЭЛІЧАХ** ёсьць усё, апроч крызісу. Падарожныя зацемкі.

Амэрыканскі беларус **ЯН ПЯТРОЎСКІ** з Фларыды.

**ВУНІЯЦКАЯ ЦАРКВА** — шлях да яднаньня нацыі.

**ЯК АБРАБАВАЛІ** й разьдзелі польскага турыста. З крымінальнай хронікі.

## Горад будуецца

Нягледзячы на ўсе нашы цяжкасьці, працягвае разьвівацца магістральна-вулічная сетка Горадні, прыстасоўваецца да патрэбаў сучаснага горада, вядзецца рэканструкцыя вуліцы Будзёнага, дзе мяркуецца пракласьці тралейбусную лінію.

Працягваецца будаўніцтва бульвара 60-годдзя Вялікага Кастрычніка. Плянуецца таксама прадоўжыць вуліцу Рэпіна да вуліцы Суворава, каб прапускаць па гэтай магістралі транспарт з боку мяжы.

Праўда, калі ўсё гэта будзе скончана, наўрад ці каму-небудзь вядома.

**М. ДУБРАВІН.**

## РАДА

3 чэрвеня 1993 г. аднавіла свае сходы Каардынацыйная Рада беларускіх згуртаваньняў у Летуве. Рада вырашыла, што будзе ня толькі каардынаваць дзейнасьць згуртаваньняў, але й возьме на сябе ролю афіцыйнага прадстаўніка грамадзкіх беларускіх арганізацый перад дзяржаўнымі ўстановамі Беларусі й Летувы. Апроч гэтага, Рада не прызнала сваім удзельнікам таварыства Беларускай Мовы Віленскага краю. Па-першае, гэтае таварыства ад пачатку не выконвае рэглямэнту Каардынацыйнае Рады, а па-другое, старшыня ТБМ М. Матусевіч і сакратар Ю. Гіль толькі й займаюцца тым, што публічна дыскрэдытуюць усе астатнія беларускія арганізацыі й самую ідэю беларускага адраджэньня на Віленшчыне.

**В. С.**



Фатаграфаваў **А. УЛАДАСЕВІЧ.**

## У інстытуце біяхіміі

У гарадзенскім Інстытуце біяхіміі Акадэміі Навук Беларусі адбылося першае паседжаньне нядаўна створанай суполкі ТБМ. Размова ішла аб паходжаньні беларускай нацыі і нашай дзяржаўнасьці, аб племені «літва», Полацкім княстве й княжаньні Міндоўга ў Навагрудку. Па пытаньні даробку летувісаў ды беларусаў у культуры ВКЛ адбылася дыскусія.

З рэфератам на паседжаньні выступіў кандыдат біялягічных навук, старшы навуковы супрацоўнік інстытута І. Заводнік. Кіруе суполкай доктар біялягічных навук прафэсар Г. Кавалеўскі. Тэбэзмаўцы прапанавалі сваім калегам дапамогу ў перакладаньні на дзяржаўную мову навуковых тэзісаў і артыкулаў.

**(ск).**

## Ляснулі даляры

Адзін жыхар г. Находка, што ў Расеі, меўся добра зарабіць у Польшчы. 3 тысячы даляраў сканфіскавалі ў яго на гарадзенскай мытні. Як ён патлумачыў мытнікам, наяўнасьць валюты папросту забыўся адзначыць у выязной дэклярацыі. Ляснулі, лічы, 4 млн. рублёў, калі паводле гарадзенскага курсу.

## СС-Н-22

ЗША маюць набыць у Расеі з Украінай ракеты СС-Н-22. Амэрыканцам карціць даведацца сакрэту гэтай савецкай зброі. Ракеты асабліва выніковыя ў марской вайне. СС-Н-22 можа ляцець усяго на вышыні 5 мэтраў над паверхняй мора з хуткасьцю 3000 км за гадзіну, удвая хутчэй за распаўсюджваньне гуку. Кінэтычнай энэргіі адной ракеты стае на тое, каб пераламіць надвая вялікі сучасны карабель.

■ Абураюцца гарадзенскія вэтэраны, што ля помніка Леніну няма, як заўсёды было ўлетку, кветак. Але ж Зелянгас, які рабіў гэта па загаду гаркама, зараз бяз грошай «дзеля ідэі» не згаджаецца ісьці на страты.

■ Гарадзенскі спартыўны стадыён болей не называецца «Чырвоны сьцяг». Зараз ён, як і наш футбольны клюб, папросту «Нёман».

**Ф. М.**

ДНЯМІ ў Горадні на балконе дома кіраўніка адміністрацыі вобласьці зьявілася спадарожнікавая тэлеантэна.

**(аб).**

У Варшаве з 26 па 30 ліпеня ладзіцца нацыянальная выстава прамысловых тавараў «Беларусь-93». Для беларускіх прамыслоўцаў гэта яшчэ адзін шанц паказаць свой тавар у суседняй краіне і навязаць кантакты для далейшага супрацоўніцтва.

**(ав).**

## «Маланка» у Парыжы

Фальклёрны беларускі танцавальны ансамбль «Маланка» з Бельска браў удзел у Міжнародным фэстывалі ў французкім горадзе Сананбэр. У французаў склаліся цёплыя ўражаньні аб беларускім фальклёры, толькі яны ніяк не маглі ўцяміць, чаму калектыў беларускі, калі краіна называецца Польшча. Усё роўна было шмат падарункаў і цёплых апладысмэнтаў.

А беларускія артысты з Польшчы мелі магчымасьць упершыню наведаць Парыж і пазнаёміцца з горадам.

**(ав).**

● *Пошта*

## Чытаю вашу газэту

На вашу газэту па шматлікіх прычынах я не магу падпісацца, але калі бываю ў тым ці іншым горадзе на Гарадзеншчыне, заўсёды купляю яе ў шапіках. Шмат ёсьць у ёй староўчага й цікавага, нешта мне здаецца адмоўным.

Мабыць, нечым «Пагоня» падобна да беластоцкай «Нівы», аднак ваша газэта мне больш падабаецца.

Лічу, што правапіс Тарашкевіча, на якім друкуюцца ўсе восем старонак вашай газэты, для многіх гучыць вельмі штучна. І не патрэбна рабіць выгляд, што мы нічога не заўважаем, таму што відавочна, як ворагі беларусізацыі выкарыстоўваюць гэта ў сваіх антыадраджэнцкіх выступах, «тарашкевіца» незнаёмая беларускаму народу. Таму, на маю думку, большасьць матэрыялаў трэба друкаваць нармаванай мовай, а адну-дзьве паласы — «тарашкевіцай».

Па-другое, артыкул у № 13 В. Задалі. Я згодзен з аўтарам цалкам. Больш таго, мне даводзіцца бываць на Беласточчыне у шмат якіх гарадах і вёсках. У Гайнаўцы ўжо дзесяць ці пятнаццаць гадоў будуецца музэй Беларускай культуры й невядома, колькі яшчэ будзе працягвацца гэта будаўніцтва з-за адсутнасьці сродкаў.

А вось на Беларусі польскія арганізацыі ці ня ў кожным горадзе будуюць культурныя цэнтры, школы, і ўлады лагодна ставяцца да іхніх праблем.

На жаль, што патрэбна для Беларусі й беларусаў, уладамі ігнаруецца, бо нідзе, ні ў вярхах, ні ў нізах, нават і блізка няма ніякага патрыятызму.

Паўсюдна могуць зьневажаць, выступаць супраць усяго беларускага розныя асобы й нават цэлыя арганізацыі, а ім за гэта — анічога, ніякага штрафа ці спагнаньня.

Вось такія мае ўражаньні. А «Пагоні» жадаю толькі посьпехаў.

**М. БАРЫСІК,**
**г. Пінск.**

Гэнрых Бекіш стаў першым на Гарадзеншчыне арбітрам міжнароднага класа па баскетболу. Гэтага ганаровага званьня ён быў удастоены на міжнародным фестывалі ў сталіцы Славакіі — Браціславе.

«Пагоня» віншуе Гэнрыха й жадае посьпехаў цяпер ужо на сусьветных баскетбольных пляцоўках.

**(ма).**

# Кітайскі камунізм і крыху сэксу

**Сотні гарадзенцаў сёньня рэгулярна наведваюць аграмадную краіну на Усходзе — Кітай або Кітайскую Народную Рэспубліку (яшчэ нядаўна й у нас была савецкая, сацыялістычная...). Калі раней кітайскія камуністычныя лідэры былі яшчэ горш тупагаловымі за савецкіх (прыгадаем хаця б «культурную» рэвалюцыю), дык цяпер сітуацыя іншая. Хітрыя партыйцы здолелі захаваць сваю ўладу, пакінуць народ у нэндзе й тым часам нарабіць процьму танных тавараў «для народа», над вырашэньнем чаго марна «працавала» Кпсс, ды сканала, ня даўшы сабе рады: тавараў у нас заўсёды хранічны недахоп. У астатнім сітуацыя ў Кітаі моцна нагадвае нашы часы «перабудовы», калі партыі нарэшце давялося «дазволіць» сэкс. Гэх, капэзс-капэзэс! Ня кпіць трэ было з тых вузкавокіх, а вучыцца ў іх: сэкс дазволілі, але й тавараў нарабілі, ды ўладу сваю «народную» захавалі. Але цягнік пайшоў ужо...**

**Дык вось. Мужныя гарадзенцы ды гарадзенкі самаадданa пераадольваюць тысячы кіламэтраў цяжкой дарогі, часам рызыкуюць жыцьцём ды грашыма дзеля таго, каб мы маглі мець тандэтныя кітайскія красоўкі й г. д. Але гэтыя людзі ня маюць магчымасьці пазнаёміцца лепш з жыцьцём братняй краіны, а пагатоў са зьменамі ў камуністычным грамадзтве, ня могуць чытаць кітайскіх газэт. Дапамога ў гэтай справе артыкул з газэты «Нью-Ерк Таймз», які мы друкуем ніжэй.**

(Матэрыял чытайце на 6-й стар.).



# ЛЮДЗКІЯ ЛЁСЫ

## Як Васіль паскупляў у вясковай краме ўсе шнуркі

Легкавік, якім кіраваў мой сябрук Васіль, прыпыніўся ля Ськідальскага гарадзкога універмагу. Прыхапіўшы з сабой кайстры, мы ўвайшлі ўсярэдзіну. У гандлёвай залі стаяла ціша. Толькі некалькі гандляроў-палякаў ня вельмі гучна перамаўляліся ў аддзеле абутку, раз-пораз мераючы красоўкі, выраблення Лідзкай абутковай фабрыкай.

Пільна прыглядаючыся да цэтлікаў, на якіх ад рукі былі напісаны кошт рэчы, мы з Васілём рушылі ўздоўж гандлёвых шэрагаў. Васіль, якога найбольш цікавіў недарагі абутак, школьныя прылады ды некаторыя хатнія рэчы, спыніўся таксама ля паліц з абуткам. Пакруціўшы ў руках некалькі пар, ён нетаропка падыйшоў да касіркі. Але тая, убачыўшы пакупніка з мноствам рэчаў, запратэставала: на рукі даем ня больш дзьвюх пар. Васіль падбег да мяне: выручай, сябра, збіраю тавар на паездку да Польшчы, а тут вось такі танны абутак, на ім можна зарабіць там, у палякаў, ня блага. Купі для мяне таксама дзьве пары, вось табе грошы... Касірка ўсьміхалася, слухаючы яго, але ўсё ж такі прадала яшчэ дзьве пары абутку.

Апынуўшыся наноў у легкавіку, мой сябрук стаў паціраць рукі і з задавальненьнем усё казаў: добры пачатак, калі пойдзе так і далей, то за адну паездку набяру патрэбную колькасьць. А зараз наперад, на Шчучын.

За Ськідалем уздоўж дарогі пачалі трапляцца вёскі, і ні адну з іх не мінаў наш легкавік. Вясковыя людзі са зьдзіўленьнем назіралі, як двое маладых мужчын цэлымі бярэмямі куплялі ў вясковых крамах абутак, вопратку, сякеры, абцугі й многае іншае. Асабліва дзівіліся жыхары вёскі Янчукі Шчучынскага раёна, дзе Васіль набыў каля дзесяці пар хатніх пантофляў і некалькі чаранкоў да сякеры. Пакуючы свой набытак, Васіль усьміхаўся: хай сабе дзівяцца, а я гэтае дабро ў Польшчы абярну ў даляры, тады й пагляджу, у каго будзе больш гумору.

Шчучынская крама «Дзіцячы сьвет» была наступнай, куды вырашыў завітаць Васіль. Мяне дзівіла, што яшчэ тут можа купіць мой сябра? Пахадзіўшы па аддзелах хвілін пяцьдзесяць, Васіль спыніўся каля вітрыны з школьнымі прыладамі. Яго гандлярскі апетыт прывабілі пэндзлікі для расфарбоўкі. Але тут у Васіля выйшаў канфуз. Крамніца, маладая дзяўчына, запытала, навошта яму столькі пэндзлікаў: што вы, у дзіцячым садку працуеце? Не чакаўшы такога пытаньня, Васіль разгубіўся, але падтрымаў яго я, сказаўшы, што пэндзлікі яму патрэбны для працы.

Купіўшы адразу прыкладна 300 пэндзлікаў коштам па 6 рублёў 50 капеек, Васіль доўга лічыў свае здабыткі. Ён казаў, што кожны пэндзлік, набыты па старым кошце, прадаць на торжышчы Польшчы можна за 4—5 тысяч польскіх злотых, таму прыбытак будзе някепскі.

Стаміўшыся ад такога «падарожжа», я папрасіў Васіля вярнуцца дамоў, але ён і слухаць не жадаў, сказаў, што трэба яшчэ трапіць у Масты, там добрыя крамы і можна няблага назапасіцца таварам.

У вёсцы Мікалаеўшчына Мастоўскага раёна ля самай дарогі нам трапілася невялікая крама. Чаго тут толькі не накупіў мой спадарожнік! Яму прадалі абутак, жаночыя кашулі, й шнуркі да ботаў, і папружкі. Крамніца з задавальненьнем пералічвала выручку й гаварыла: «Вось дзякуй, што выручылі, а то нашыя людзі чамусьці не бяруць гэтыя рэчы». Потым, уздыхнуўшы, дадала: бедныя сталі нашыя вяскоўцы».

Мне зрабілася зусім сорамна.

Я сеў у легкавік і болей не хадзіў разам з Васілём. Але ён яшчэ і ў Мастах дакупіў тавару, тых жа пэндзлікаў, алоўкаў, самапісак.

Пры падліку аказалася, што за гэты дзень Васіль патраціў больш за сорак тысяч рублёў, ды яшчэ пазычыў у мяне. Але ня гэта галоўнае. Даўно існуе пастанова ўраду Беларусі аб парадку гандлю. На жаль, яна дагэтуль парушаецца, асабліва ў вясковых крамах, дзе жывуць пераважна людзі пэнсійнага ўзросту. На свае невялікія пэнсіі яны ня здольны купіць сабе нават танныя рэчы. Таму нярэдка крамніцы прадаюць тое, што ёсьць у іх краме, ў неабмежаванай колькасьці. А гэта вельмі спрыяе разнастайным гандлярам, якія, нічога ня робячы, нажываюцца за кошт перапродажу гэтага тавару ў суседняй Польшчы ці дзесь далей.

**В. ВАСІЛЕВІЧ.**

*Людзі беларускага замежжа*

## Ян Пятроўскі

Упершыню пра беларускага перакладчыка й выдаўца з Амэрыкі Яна Пятроўскага расказала сваім чытачам беластоцкая газэта «Ніва» яшчэ ў 80-х гадах. Гэта было кароткае паведамленьне, што жыве на Флярыдзе (ЗША) чалавек, які перакладае на беларускую мову старажытна-грэчаскую літаратуру й выдае яе на ўласныя грошы. А ў сакавіку 1990 года ў той жа «Ніве» зьявіўся пра самога перакладчыка невялікі артыкул «Слова яднае з Радзімай» Вітаўта Мартыненкі.

Друкаваліся ў «Ніве» і іншыя допісы пра Яна Пятроўскага й яго творы. Але больш за ўсё мне запомнілася рэцэнзія Яна Чыквіна на другую кнігу ўспамінаў Я. Пятроўскага «Мэмуары. Стагоддзе ў рэтраспэкцые (1945—1953)» (Слуцак — Гэйнсвіль, 1991), што зьявілася ў беластоцкім тыднёвіку ў сакавіку мінулага года.

■

20 студзеня 1905 года ў Слуцку, ў сям´і Дзям´яна Адамавіча й Юстыны Андрэеўны Пятроўскіх нарадзіўся сын, якога ахрысьцілі Янам. Бацька рана памёр, таму поўным аўтарытэтам і гаспадыняй ў доме была маці, а таксама старэйшы брат Апанас. Акрамя яго ў сям´і Пятроўскіх было яшчэ сямёра дзяцей.

У 1919 годзе Юстына Пятроўская разам з сынам і дзьвюма дачкамі выехала ў Вільню. У гэты час тут ужо гаспадарылі палякі. Але нягледзячы на цяжкасьці, Ян закончыў гімназію, адбыў службу ў польскай арміі.

У 1928 годзе пачаў вучыцца ў Тэалягічнай школе мэтадыстаў у Клярысаве каля Варшавы. Пасьля яе заканчэньня працаваў год у Варшаве, а ў 1932 годзе прыехаў у Дзярэчын (цяпер Зэльвенскі раён). Тут за чатыры гады Ян Пятроўскі яшчэ бліжэй далучаецца сэрцам і душою да свайго народа, чуе родныя беларускія мову й песьні, назаўсёды захоўвае любоў да гэтага гістарычнага ціхага мястэчка. У першым томе сваіх «Мэмуараў» (ЗША, 1988 г.) ён прысьвяціў Дзярэчыну вялікі разьдзел, які назваў «Дзярэчын — малы Вэрсаль».

У 1936 годзе Яна Пятроўскага пераводзяць у Варшаву, дзе ён служыць пастарам. Але затрымацца там ня было магчыма — пачынаецца Другая Сусьветная вайна. У сакавіку 1941 года Я. Пятроўскі выяжджае ў Германію, пасьля ў Аўстрыю, а ў 1953 годзе — у Амэрыку, дзе й зараз пражывае ў штаце Флярыда ў невялікім горадзе Гэйнсвіль.

■

Яшчэ з юначых гадоў у яго праявілася любоў да вывучэньня моў. Пра гэта Я. Пятроўскі напісаў у сваёй невялікай кніжачцы «На васьмідзесятыя ўгодкі» (1985 г.): «З пачаткамі расейскае мовы я запазнаўся яшчэ ў Слуцку. Перш, адведваючы Манастырскую школу на Трайчанах, я пазьней два гады хадзіў у Прыходзкую школу на Юр´еўскай вуліцы. Польскую мову вывучаў у час фармальнае адукацыі, якая дазваляла мне займаць пазыцыю пастара ў Варшаве ў адной з дзьвюх кангрэгацыяў у месяцы, і становішча сакратара гадовае канфэрэнцыі польскай царквы мэтадыстых, будучы выбраным на гэтай жа канцэрэнцыі ў 1938 г. і зацьверджаны эпіскапам Артурам Дж. Морам.

Нямецкую мову пачаў асвойваць у сярэдняй школе як прадмет, а пазьней ў штодзённым абыходзе, жывучы ў Нямеччыне, пасьля ў Аўстрыі на працягу чатырнаццаці гадоў. З пачаткамі ангельскай мовы сустрэўся я ў тэалягічнай школе ў Клярысаве, а пазьней адзін год наведваў вядомую ў Варшаве вышэйшую школу ангельскай мовы, што знаходзілася на пляцу Збавіцеля, якая, наколькі мне вядома, існуе й сягоньня там існуе. Украінскі тэкст я чытаю гэтаксама, як і чэскі. Пачаткі лацінкі гэтаксама выводзяцца з сярэдняе школы.

■

Школа беларускае мовы — гэта школа адносна даўгалетняга майго жыцьця. Першым і найлепшым маім прафэсарам гэтае мовы была мая добрая маці гаспадыня Юстына Пятроўская. Пасьля яе йшлі прафэсары: Р. Астроўскі са сваім правапісам беларускае мовы й Б. Тарашкевіч з беларускаю граматыкаю й г. д..»

Гэта сапраўды так. Дзе б не знаходзіўся Я. Пятроўскі, з ім заўсёды была яго родная мова, Бацькаўшчына й літаратурная дзейнасьць.

Жывучы ў Гэрманіі, у 1949 годзе ён выдае на беларускай мове дзьве прыгожыя й арыгінальныя паштоўкі. Адна з іх прысьвечана Францыску Скарыне, другая — Дню 25-га сакавіка.

У 1962 годзе Ян Пятроўскі пачынае выдаваць газэту «Сьветач Хрыстовае Навукі», апошні нумар якой выйшаў у 1966 годзе. Разам выдадзена 24 нумары.

Але самай вялікай заслугай спадара Я. Пятроўскага зьяўляецца тое, што ён упершыню змог перакласьці на беларускую мову й выдаць дыялёгі грэчаскага філёзафа Плятона. У шасьці асобных кнігах, якія зьявіліся ў Амэрыцы, надрукаваны дыялёгі «Абарона Сакратаса», «Крытон», «Файдон», «Сымпазыён», «Іён», «Георгіяс», «Протагорас», «Гіппіяс вялікшы», «Пармэнідэс» і «Політэя», а таксама выйшлі ў друку пабеларуску філязофскія роздумы рымскага імпэратара Марка Аўрэліюса.

У 1989 годзе асобнай брашурай у Гэйнсвіле на беларускай мове пабачыла сьвет праца нямецкага філёзафа Карла Вільгельма Барона фон Гумбольдта (1767—1835) «Унутраная форма мовы». Яе таксама пераклаў Ян Пятроўскі.

Ня кожная дзяржава можа пахваліцца слоўнікам, які сёньня маюць беларусы. Маецца на ўвазе двухтомнік «Грэцка-беларускага слоўніка» Я. Пятроўскага.

Сабраў наш суайчыньнік і выдаў на эміграцыі трохтомнік «Лепшых думак чалавека», а таксама іншыя літаратурныя перакладчыцкія працы.

■

З усіх пералічаных твораў Я. Пятроўскага абмінуць яго «Мэмуары» проста немагчыма. Першы том выйшаў з друку у 1988 годзе, другі — у 1991-м, а сёлета павінен зьявіцца й трэці. «Мэмуары» уяўляюць сабой успаміны аўтара аб пражытым жыцьці. Яны нясуць ў сабе пазнаваўчую й фактаграфічную вартасьць, а таксама зьяўляюцца багатай крыніцай для тых, хто займаецца й цікавіцца гісторыяй царквы мэтадыстых.

Ёсьць у «Мэмуарах» й ўспаміны пра Гальяша Леўчыка і Антона Луцкевіча, каштоўнае апісаньне даваенных Слуцака, Дзярэчына, Вільні, Горадні, Варшавы й іншых мясьцін, дзе жыў і бываў наш зямляк...

**Сяргей ЧЫГРЫН,**
**г. Слонім.**

*Наваградчына*

### Конь кату не таварыш

У калгасе «Радзіма» Наваградзкага раёна днямі адбыўся продаж жарабят. Калгасьнікі набывалі іх для ўласных гаспадарак па кошце ад 15 да 40 тысячаў. Для параўнаньня: пародзістыя кацяняты на міжнароднай выставы ў Горадні каштавалі да 140—160 тысячаў рублёў, каровы на рынку — 120—130 тысячаў.

Людзі, як відаць, паступова пачынаюць адчуваць сябе гаспадарамі хоць на ўласных падвор´ях. А некалі ж, пры Хрушчове спэцыяльным указам было забаронена селяніну мець уласнага каня.

### Усё, што дзеецца...

Дэфіцыт мінеральных угнаеньняў ды хімікатаў мае і станоўчы бок. Ачунялі ад атруты невялікія рачулкі й азёры. У рэчках Наваградчыны зьявілася стронга.

Незнарок узгадваецца філасоўская думка Вальтэра: «Усё, што дзеецца, дзеецца да лепшага».

### Бог даў — Бог і ўзяў...

У вёсцы Уселюб, што на Наваградчыне, уначы згарэў уласны гараж дырэктара Наваградзкага пясгаса, дзе захоўвалася тэхніка, запчасткі, бочкі з бэнзінам і саляркай. Частку ўдалося выратаваць, але згарэлі легкавік і невялікі трактар.

Існуе вэрсія, што гараж падпалілі наўмысна нейкія недабразычлівцы. Ранкам на месца здарэньня панаехала шмат міліцыянтаў з аўчаркамі, якія марна спрабавалі знайсьці сьляды.

Цікава, што некалькі год таму ва Уселюбе згарэла вэтэрынарная станцыя, і ніхто вінаватых не шукаў, тым больш з аўчаркамі.

Пошук падпальшчыка працягваецца, а мясцовыя людзі не перастаюць зьдзіўляцца багацьцю дырэктара.

**Падрыхтаваў Б. МОГАЛЬ.**





# КАНФЭСІІ

# ТРЭЦІ ЛІШНІ, альбо ці можа вунія стварыць рэлігійную канфрантацыю?

Адметнай рысай нашага часу зьявілася масавае вяртаньне людзей да духоўнай спадчыны продкаў. Зьнікае мала-памалу «эрзац-культура» камуністых, чалавецтва само выбірае сабе веру й шлях да духоўных каранёў. Але й ў гэтым выпадку ня ўсё проста, на паверхню ўздымаюцца нябачныя дагэтуль часткі векавых праблем, зьвязаныя, на мой погляд, з барацьбой за ўладу.

Незалежнасьць Беларусі ставіць на першае месца адраджэньне беларускай нацыі як ў культурным, так і ў духоўным сэньсе. Сама ж гісторыя веры ў Бога на Беларусі — гэта многавекавая барацьба за аб ´яднаньне Усходняй і Заходняй царквы, і цягнецца гэта барацьба практычна дзевяць з паловай стагоддзяў. Таму сама зьява Вуніі на тэрыторыі ВКЛ — гэта спроба нашых продкаў самім захавацца гістарычна й захаваць сваю дзяржаву. І, як мне падаецца, разглядаць пачаткі гэтага патрэбна з гісторыі расколу хрысьціянскай царквы.

Сама ж гісторыя расколу царквы дакладна паказвае нам, што ў аснове расколу ляжала ня спрэчка аб дагматыцы паміж Заходняй і Усходняй царквой, а складаная палітычная барацьба за ўладу як дзяржаўную, так і рэлігійную. Рым імкнуўся захаваць свой уплыў і адзінства, ня страціўшы сваіх пазіцый. Канстанцінопаль, стаўшы сталіцай Візантыйскай імпэрыі, жадаў ня толькі параўнаць сябе з Рымам, атрымаць поўную незалежнасьць, але й рэлігійна ўзьнесьці сябе нават над Александрыйскай і Анціахійскай кафэдрамі, вядомыя за сваё існаваньне апосталамі.

■

Але вернемся да Вуніі. Узьнікла яна на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жмудзкага — гэта значыць там, дзе як ні ў адной дзяржаве існавалі нароўных адносіны як да Заходняй, так і Усходняй царквы. На гэтых землях вельмі востра сутыкнуліся місіянэрскія інтарэсы Усходу й Захаду.

Натуральна тое, што на тэрыторыі адной дзяржавы было невыгодна мець дзьве царквы, якія змагаюцца адна супраць другой. Таму ўзьнялося пытаньне аб саюзе паміж імі. Першым, хто пачаў стварэньне Вуніі, быў Вялікі князь Вітаўт. Але закончыўся працэс праз 180 гадоў, у 1596 годзе, калі была заключана Вунія праваслаўнай і каталіцкай царквы.

Тут мне хацелася б апаніраваць сьвятару Сьвята Уладзімірскай царквы Аляксандру Раманчуку, які ў сваім артыкуле ў «Гарадзенскіх эпархіяльных ведамасьцях» за жнівень 1992 года піша аб немагчымасьці нацыянальнай беларускай царквы. Так, Царква Хрыстова наднацыянальная, але не праваслаўная, якая заўсёды адрозьнівалася русізмам. Характэрнай рысай наднацыянальнасьці царквы, г. зн. ўсяленскасьці, ёсьць: **1. Наяўнасьць ўсяленскае главы. 2. Пропаведзь ўсім народам. 3. Наяўнасьць груп хрысьціян у розных краінах.** Нарэшце, ці не Хрыстос гаварыў аб пропаведзі ўсім народам? А пропаведзь ажыцьцяўляецца на нацыянальнай глебе й на нацыянальнай мове.

Згодзен, што непапулярнасьць, слабасьць Грэка-Каталіцызма на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага мела месца, але абгрунтаваньне гэтаму — цяжкая гісторыя 1596—1839 гг. Не было практычна ўмоў для мірнага разьвіцця, бо 600 гадоў да Вуніяцтва Беларусь была праваслаўнай. Хрышчэньне беларускіх земляў адбылося да царкоўнага расколу 1054 года. З 988 года прыблізна да XIII стагоддзя захоўваліся сувязі з апостальскай сталіцай сьвету Рымам у супрацьвагу Канстаньцінопалю. Толькі палітычныя інтрыгі й войны разрывалі сувязі Усходніх і Заходніх хрысьціян.

■

Вунія 1596 года не была гвалтоўнай. Гэты дабраахвотны саюз падпісалі практычна ўсе эпіскапы, за выключэньнем двух: Капусьцінскага й Балабана. Што дрэннага ў тым, што беларусы станавіліся каталікамі? На тое ёсьць воля Хрыста. Ён хацеў бачыць Царкву адзінай, ставячы на чале яе Пятра.

Вунія на тэрыторыі Беларусі праіснавала да 1839 года. Царскі ўрад дзейнічаў у сваіх палітычных мэтах пры дапамозе хлусьці й катаргі. Парушэньне міру ў Рэчы Паспалітай адбылося не па віне Вуніі. Таму многа іншых прычын: зьяўленьне маскоўскай патрыярхіі й стварэньне з Масквы «III-га Рыма». Здрадніцкае паўстаньне казакаў, падбухторваньне якіх ішло ад турэцкіх патрыярхаў, якія існавалі за грошы з Украіны, садзейнічала расколу некалі магутнай і самай вялікай Эўрапэйскай дзяржавы.

■

Пасьля рэвалюцыйных бураў пачатку XX стагоддзя на тэрыторыі адроджанай польскай дзяржавы зноў адраджаецца вуніяцкая вера. Палітычна не выгодная для Масквы, ў 1946 годзе пад націскам НКУС на Львоўскім саборы Вунія была скасавана. Вернікі й сьвятары-вуніяты былі падвергнуты ганеньням, як і пры цары, менавіта за яднаньне канфэсій, ўгодных Хрысту.

У выніку развалу імпэрыі камуністых і гібельлю карных інстытутаў, бясспрэчна, павінна быць адроджана тое, што было імі ж зьнішчана. І як бачым, гэта ўжо адбываецца, хоць і не без болю. Успомнім сутычку паміж праваслаўнымі й грэка-каталікамі Заходняй Украіны...

Як мне бачыцца, адраджэньне вуніяцтва магчыма таму, што яму ўласьціва, як і каталіцтву, сусьветнасьць і вышэйшая мэта. Безумоўна, што адна праблема можа разглядацца з розных пунктаў погляду.

Адраджэньне грэка-каталіцкай царквы выклікае супрацьборства, асабліва сярод праваслаўнага духавенства. Бо гэта, на іх думку, павінна прывесьці, ў першую чаргу, да значнага зьмяншэньня прыходаў і абвастрэньня рэлігійных супярэчнасьцяў. Але на праблему трэба глянуць і з пазіцыі грэка-каталіцкай грамады, якая жадае ўсталяваць справядлівасьць ў адносінах да яе. Ды й ўсяленскасьць грэка-каталіцызма можа адыграць рашаючую ролю ў аб ´яднаньні дзьвюх сястрынскіх канфэсій. Канфрантацыі ня будзе, калі з царкоўных кафэдр прагучаць заклікі аб агульнай малітве за аб ´яднаньне ўсіх хрысьціян.

**А. САФУ,**
**слухач каталіцкага каледжа св. Фамы Аквінскага ў Горадні.**

# «У Карэлічах ёсьць усё, акрамя крызісу»

Люблю падарожнічаць, аднак доўгі час нікуды не выязджаў з Горадні...

З раніцы яшчэ хочацца спаць, едзем чамусьці праз рынак, хоць ёсьць іншая дарога. Паўсюдна гарэлка, даляры, цыгарэты. Яшчэ зусім рана, а людзей ужо, як пчолаў у вульлі. Упершыню адчуваю задавальненьне, што пакідаю свой горад, хоць і не надоўга.

Неяк ляніва падымаецца сонца й здаецца, што прыгрэе яно дзенебудзь пад абед. Аднак ужо за Шчучынам у машыне становіцца занадта цёпла. Тут яшчэ знаёмыя мясьціны, некалі даводзілася бываць.

Лета. Зусім не такое, як у Горадні. Сенакос. Роўненька й нізенька скошана трава, недзе складзена ў снапы, пасуцца каровы, жанчыны полюць буракі.

Ізноў горад. Навагрудак. Ён яшчэ сьпіць, недзе на гары пашкодзіла трубу, й вада сьцякае ў самы ніз, да першых дамоў. Горад чысьценькі, малы й зусім непадобны на мой.

■

Я ўпершыню трапіў у Карэлічы.

Мястэчка чамусьці нагадвае мне вёску, якая напросту стаіць пры дарозе. Аднак рахунак ў адзіным новым гатэлі за адну ноч у маленькім пакойчыку са старым чорна-белым тэлевізарам прымушае сумнявацца, што я трапіў некуды за ваколіцу.

У мясцовым райвыканкаме на невялікім пляцы ветліва сустракаюць гасьцей. На дзіва, паўсюдна прыемна гучыць родная мова. Навукоўцы з Менску ўважліва разглядаюць невялічкую выстаўку дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва карэліцкіх майстроў, архіўныя дакументы, зьвесткі аб пісьменьніках, якія паходзяць з гэтай зямлі, і іх кніжкі. На паліцах выданьні Я. Чачота, Я. Брыля, В. Іпатавай і шмат іншых.

Увагу прыцягвае незнаёмы раней беларускі рукапісны помнік канца XV пачатку XVI ст.ст., створаны для царквы ў вёсцы Малыя Жухавічы Карэліцкага раёна: «Пісаны ліст царкоўнаславянскаю моваю з многімі беларускімі асаблівасьцямі. Чатыры мініяцюрныя выявы эвангелістаў, застаўкі, ініцыялы выкананыя ў золаце, загалоўкі пісаныя кінаварам».

Зразумела, гэта не іставік. Пад нізам подпіс: «З 17 ст. зберагалася ў Жыровіцкім манастыры, з пачатку 1920-ых гадоў у Беларускім музэі ў Вільні, зараз у бібліятэцы АН Летувы».

Перад уваходам у актавую залу вялікая галава Леніна. Напэўна з бляхі, зусім недарэчная ў гэтым інтэр ´еры. Здаецца, калі хто й зьвяртае на яе ўвагу, то толькі са спачуваньнем.

■

Першыя карэліцкія краязнаўчыя чытаньні. Такая падзея ў Карэлічах ўпершыню. Ладзіцца яна мясцовым райвыканкамам і Нацыянальным навукова-асьветным цэнтрам імя Ф. Скарыны. Прысьвечана 600-годдзю мястэчкаў Карэлічы й Мір, якое будзе адзначацца ў 1995 годзе.

Намесьнік старшыні Карэліцкага райвыканкама А. Самец, былы настаўнік, мясцовы чалавек, без паперкі, па-беларуску, падкрэсьлівае значнасьць гэтай падзеі для Карэліцкай зямлі, нагадвае, што ў іх раёне адкрыта ўжо шэсьць стаянак першабытных людзей.

Дарэчы, у зале шматлюдна: настаўнікі з усяго раёну, рабочыя, сяляне, мясцовая інтэлігенцыя. Пасьля ўступнага слова намесьніка старшыні райвыканкама прыходзяць думкі, што ў лепшым выпадку такія людзі ў нас толькі ў намесьніках...

«У кожным раёне можна знаходзіць гісторыю нашага народа, толькі трэба паўсюдна ставіць знакі, каб людзі ведалі, што мы жывём тут тысячы гадоў»,— зазначае М. Чарняўскі, кандыдат гістарычных навук. Некалі ў маладосьці яму давялося сваімі нагамі зьмераць Карэліцкую зямлю.

«У 1966 г. на Гаагскай канфэрэнцыі да самых значных помнікаў сьвету залічылі Мірскі замак і Сынкавіцкую царкву, што ў Зэльвенскім раёне. Да прыкладу, у Летуве ёсьць толькі адзін помнік такога значэньня. Архітэктар, які збудаваў замак у Міры, па паходжаньні італьянскі, але, дзякуючы сваёй выключнай таленавітасьці, увасобіў, і вельмі яскрава, усе магчымыя асаблівасьці тагачаснай беларускай культуры...» (Т. Габрусь «Мірскі архітэктурны шэдэўр»).

М. Яніцкая: «Габэленавая мануфактура створана ў Карэлічах Радзівіламі. Частка габэленаў, якія ведала некалі ўся Эўропа, зараз захоўваюцца ў музэях Польшчы й на Украіне.»

Свой даклад «Ураджэнец Мядзведкі — нацыянальны герой Чылі, Ігнат Дамейка як вучоны й падарожнік» А. Мальдзіс не чытаў, паколькі ён будзе надрукаваны ў мясцовай газэце. Толькі коратка паведаміў, што ў Чылі жыве праўнучка І. Дамейкі — Эва Адахоўская, якую запрасілі на зьезд Беларусаў сьвету ў Менск. А таксама дадаў, што ў цэнтры Сант ´яга стаіць помнік нашаму славутаму земляку, які, дабраўшыся да гэтай краіны, аддаў ўсяго сябе дзеля новай Радзімы. Яго імем названы адзін з гарадоў Чылі, толькі, на жаль, у нас на Беларусі, яго імя не ўвекавечана.

На правах кіраўніка Нацыянальнага навукова-асьветнага цэнтра імя Ф. Скарыны Адам Мальдзіс паведаміў, што зараз пры іх структуры ўтвараецца новы аддзел, які будзе займацца адшуканьнем твораў мастацтва Беларусі, якія ў свой час трапілі за мяжу. Аптымістычна дадаў, што ўжо зараз зьявілася надзея вярнуць на радзіму Карэліцкія габэлены з Львова й бібліятэку Хрэптовіча з Кіева. І ўрэшце перадаў намесьніку старшыні райвыканкама падрабязную карту Карэліцкага раёна, прывезеную з Польшчы, якая была складзена немцамі яшчэ ў 1916 годзе.

Найболей мясцовых жыхароў уразіў даклад Лідзіі Савік «Адзін з пачынальнікаў амэрыканскай астранаўтыкі — наш зямляк, прафэсар Барыс Кіт». Дакладчыца неаднойчы сустракалася у ЗША й Нямеччыне з вядомым навукоўцам, якому ўжо 83 гады й які дагэтуль марыць бачыць Беларусь, сваю Радзіму, свабоднай і прыгожай. Ён нават даслаў план і праграму ўнівэрсітэта, які хоча стварыць у Навагрудку на свае грошы, дзе сам некалі вучыўся.

А. Мальдзіс уключыў дыктафон, дзе запісана яго размова з Б. Кітам. У зале прысутнічае родная сястра славутага амэрыканскага беларуса, якая й дагэтуль жыве ў Карэлічах.





# ПЕРАКЛАДЫ

## Смаргонь

Буйны міжнародны навуковы сэмінар адбыўся на мінулым тыдні ў Смаргоні. Арганізавалі яго мясцовы завод аптычнага станкабудаваньня й рэдакцыя беларускага часопіса «Вакуумная тэхніка й тэхналогія».

З дакладамі на сэмінары выступілі навукоўцы з Рыгі, Менску, Санкт-Пецярбургу, Казані, Масквы, а таксама спэцыялісты Смаргонскага завода аптычнага станкабудаваньня. Размова ішла аб праблемах, што зьвязаны з вытворчасьцю вакуумнай тэхнікі. Дарэчы, Смаргонскі завод — адзіны на Беларусі вытворца такога абсталяваньня. Тут заплянавана ў бліжэйшыя гады наладзіць выпуск вакуумных установак для электроннапрамневага пераплаву й зваркі, іншага абсталяваньня.

М. МІХАСЕЎ.



Фатаграфаваў А. МАКАРЭВІЧ.

Ежы Пшэзьдзецкі

## АНАНІМ

### Апавяданьне

Пане рэдактар.

Я прачытаў гэты панаў «Вялікі выступ». Якісьці пасажыр, відаць, забыўся й пакінуў часопіс у маім самаходзе. У мяне якраз было крыху часу. Перада мной стала ў чарзе з дзесяць «Мэрсаў». Хто ж гэта тады паедзе маім «Фіятам»? Кожнаму падай штось самае сучаснае. Карацей, прачытаў я апавяданьне. Але няхай пан ня думае, што я зараз пачну яго хваліць. Наадварот. Не падабаецца мне тое, што напісаў пан.

Заўважыў пан таго старога у вакне, зразумеў, што той хоча зрабіць, дык і няцяжка было пра тое напісаць. Гэта як бы з фотаапаратам: пстрык й чалавек гатовы. У нас некаторыя аматары так усё апісваюць (таксама й пан), аднолькава як прыймае страхавы доктар — без досьледу арганізма пацыэнта.

Я з 27-га году. Жыцьцё ведаю, бо ў часе вайны гандляваў самагонам. Гэта ўсё адно як унівэрсітэт. Прадаваў я тую атруту розным людзям. Пан скажа: ах ты, паскуднік, спойваў Польшчу. Можа й так. Але ж мая маці пяць год усю акупацыю хварэла на рак. Не, не хварэла. Памірала пяць год. Я ўпершыню біўся тады галавой аб сьцену. Яна енчыла раўнамерна, пры кожным уздыху. Можна было па гэтым вымяраць час. Я сам купіў ёй першую бутэльку. Вельмі сьмярдзела. Давялося заправіць палёным цукрам. Потым яна піла ўжо без гэтага. Грошы зьнікалі. Вось тады я й сам пачаў гандляваць тым сьвінствам. Яна перастала енчыць. Калі я прыязджаў з таварам дахаты (езьдзіць даводзілася пад Пётркув), ад бутэлькі заставаўся адно пах. Маці спала. Зрэшты, ня ведаю, ці быў то сон. Я падымаў ёй галаву й прыкладваў да вуснаў рыльца бутэлькі. Адны кахаюць маці больш, другія менш. Для мяне яна была й маці, й бацькам, і ўсім тым, што звычайна апавядаюць пра сваіх дзядоў. Я нарадзіўся пазашлюбным. А яна, служанка, жыла гэтак, што ніхто ніколі не назваў мяне байструком. Але зараз я не падпішуся пад сваім лістом. Не магу. У мяне трое дзяцей, яны нічога ня ведаюць. Калі жонка бывае злуе на мяне, дык грозіць, што раскажа ім усё. Яна адна ведае. Яна нядобрая. Да нядаўняга часу я думаў, што мусі так быць, як ёсьць й што ня можа быць інакш. Людзі гавораць пра нас «маюць ладны дамок, дзеці здаровыя, яна гаспадарлівая, чаго ім яшчэ бракуе для шчасьця?» Нічога не скажу, зарабляю я няблага. Дом збудаваў нядрэнны, гэта факт. Толькі блага, калі даведаешся, што на сьвеце ёсьць яшчэ шмат розных шчасьцяў. А ня толькі адно-адзінае. Аднолькава як з маркамі самаходаў. Пан можа з мяне пасьміхацца, але я, ужо немалады, толькі нядаўна зразумеў, што сеў не на свой воз і што ўсе пятнаццаць гадоў падманваў сябе, быццам еду ў слушным кірунку, а было якраз наадварот.

Вазьнічыя коні даўней мелі на вачах збоку скураныя латкі, каб цікавіліся толькі тым, што наперадзе. Й нічым іншым. Я заехаў ужо задалёка. Нічога нельга зьмяніць. Адно баліць. Я для сям´і нібы той таксомэтр, што выбівае лічбачкі. Грошы, грошы... Ведаю, што я быў бы шчасны, каб гэта была ТАЯ жанчына. Тады я мог бы не разьгінаючыся цэлымі днямі «крышыць каменьне».

(Працяг на 8-й стар.).

## «Свабода» будзе жыць!

Як вядома, у зьвязку са скачэньнем халоднай вайны й у мэтах паляпшэньня амэрыканскага дзяржаўнага бюджэту прэзідэнт Клінтан меўся спыніць з наступнага году фінансаваньне радыёстанцый «Свабодная Эўропа» й «Свабода», у складзе якой існуе таксама беларуская рэдакцыя. Днямі адбылася эўрапэйская нарада па пытаньнях надалейшага разьвіцьця інфармацыйнай прасторы. Удзельнікі пагадзіліся, што патрэба ў гэтых дзьвюх радыёстанцыях застаецца. Напрыклад, «Свабодная Эўропа» будзе пераарыентавана на краіны былой Югаславіі. Складаная палітычная сітуацыя ў былых савецкіх рэспубліках вымагае існаваньня радыё «Свабода».

Абедзьве радыёстанцыі, як было паведамлена, будуць уключаны ў склад «Голаса Амэрыкі».

Я. САПЕЖЫНСКІ.

## Папа ў Іспаніі

Рымскі папа Ян Павал Другі наведаў з пілігрымкай Іспанію. У Севільі ён выступіў перад шматтысячным зборам вернікаў, дзе прысутнічалі кароль Іспаніі з каралевай. Іспанія традыцыйна каталіцкая краіна, а іспанцы — добрыя вернікі. У сваёй казані папа гаварыў пра падзеньне маралі, распаўсёджаньне абортаў, распад сям´і.

(са).

Б. Кіт займаўся адкрыцьцём вадкага вадароднага паліва, на якім лётаюць у космас усе ракеты. Ён зьяўляецца ганаровым чыньнікам самых вядомых унівэрсітэтаў у сьвеце, яго гонар можа належыць народу любой краіны, толькі не Беларусі...

Для Карэліцкага краязнаўчага музэя А. Мальдзіс перадаў копію ганаровага дыплома Марыінскага ўнівэрсітэта, які належыць Б. Кіту.

Адным з апошніх слова ўзяў Народны пісьменьнік Беларусі Янка Брыль. Да гэтага аб яго асобе шмат казалася ў адным з выступленьняў. Аднак у зале стала зусім ціха. Праўда, пісьменьнік быў нешматслоўны, толькі шчыра ўсім падзякаваў за гэтае сапраўднае сьвята.

■

У Карэлічах даволі сучасны рэстаран. Прыгожы посуд, сталы нават засэрвіраваны двума відэльцамі й, на думку менскіх навукоўцаў, палудзень папросту шыкоўны. Нехта нават заўважыў, што ў Карэлічах ёсьць усё, акрамя крызісу.

Праграма дня вельмі насычаная й таму мы доўга не сядзім, едзем у Мір.

Побач з намі ў аўтобусе Народны пісьменьнік Беларусі Янка Брыль. На яго ўся ўвага, а ён не стамляецца ўвесь час нешта апавядаць. Праяжджаем праз вёску, дзе ён нарадзіўся. Прыгожыя краявіды, маляўнічыя мясьціны. «А вось гэтую царкву апісаў У. Караткевіч у адным са сваіх твораў. А ў гэтай вёсцы, бачыце, адны новыя дамы. Нейк сярод ночы загарэлася хата самай шкоднай жанчыны й ніхто не пайшоў яе тушыць. А ад яе потым згарэла палова вёскі...» Здавалася, што гэты чалавек ведае тут усё не толькі аб кожнай хаце, але аб кожным дрэўцы, кожным камяні. І неяк упэўнена й добра чуецца побач з ім.

Мір. Будаваўся гэты прыгожы цудоўны замак адно дзесяцігоддзе, а рэстаўрацыя цягнецца ўжо дваццаць пяць гадоў. Дарагія будматэрыялы раскрадаюцца, потым узьнікае пажар і вінаватых ніколі не знаходзяць. І так ужо неаднойчы.

А замак ўсё роўна ўражвае сваёй веліччу, адчуваецца, якой дзяржаве ён мог належаць. На адной з вежаў прарасла бярозка й зазелянела.

Нейкі пьяны дзяцюк прыбіўся да нашае групы й просіць цыгарэтаў. Кажа, што навучэнец мясцовай рэстаўрацыйнай вучэльні й прыехаў сюды аж з Екацярынбурга, каб атрымаць адукацыю. Вось такія нацыянальныя кадры рыхтуюць у Міры.

Мы ня доўга знаходзімся ў замку, і наш шлях далей на Сьвіцязь. Толькі тут у гэтым ціхім куточку, на беразе прыгожага чыстага возера адчуваеш, як шмат ураженьняў атрымаў за адзін дзень. Ад чыстага ляснога паветра й водару кветак кружыцца галава. А вада ў Сьвіцязі празрыстая-празрыстая, нават калі й адплываеш далёка ад берага.

Усім маім калегам з Горадні тут вельмі падабаецца, марым прыехаць сюды на адпачынак. Кошт аднае пуцёўкі на месяц у прафілакторыі складае 38 тысяч рублёў.

На беразе возера прыгожы грабавы лес, і мы ня хочам ад´яжджаць назад у Карэчылі, але ўжо вечарэе.

У аўтобусе ўзгадваецца інтэрв´ю са швэйцарскім паслом у Беларусі, калі той праехаў толькі ад аэрапорта да Менску й ўразіўся непаўторнымі беларускімі краявідамі, нават ня горшымі, чым у яго на радзіме. Нешта падобнае адчуваю й я.

■

У гатэлі не сядзіцца й ня сьпіцца. У мястэчку ціха й бязлюдна. Аднекуль даносіцца музыка, і мы выходзім на яе. Танцы, моладзь, каляровыя агні. Трохі зайздросьціш іх узросту. Праўда, у Карэлічах моладзь надоўга не затрымоўваецца, пасьля школы большасьць зьяжджае хто куды, аднак на канікулы ці ў адпачынак вяртаюцца толькі дадому. Тут такая ж цывілізацыя, як і паўсюдна, але па савецкім звычаям чамусьці ўсе выбіраюць вялікія гарады. Вядома, у Карэлічах няма тэатраў, але ці гэта галоўнае для іх у чужых гарадах. А камэрцыйны шапік з замежнымі цыгарэтамі, півам, гарэлкай, напоямі — усё як у Горадні або Менску. Ды яшчэ шмат такога, чаго ніколі не сустрэнеш у вялікіх гарадах: цішыня, пакой, ветлівыя людзі, невялічкі гародчык побач з домам і шмат гнёздаў буслоў. Напэўна, ў маладосьці гэта не галоўнае.

■

У нядзелю Сьвята песьні й працы. У царкве звоняць званы. Вядома, да яго рыхтаваліся спэцыяльна, але такога багацьця я не бачыў ад застойнага часу. Розныя шынкі, рулеты, вэнджаніна, напоі, лікворы, шампанскае, цукеркі, шакалад і асабліва печыва. Тарты, піrожныя, выпечаныя з цеста лімоны й абрыкосы, фігуркі розных зьвяркоў, якія й зьесьці папросту шкада.

Прадаўшчыца з гонарам кажа, што ўсё гэта наша, карэліцкае, выпечанае мясцовымі кулінарамі. Памідоры каштуюць толькі 360 рублёў. Пасьля Гарадзенскага рынку нават ня ведаеш, куды глядзець. Людзі зьехаліся з усяго раёну, але нідзе побач з шапікамі не зьбіраецца натоўп. Такое ўражаньне, што ўсім усяго хапае. Праўда, адзін сталы мужчына заўважае мне, што гэта толькі суб´ектыўныя ілюзіі, а на самай справе ўсё ня так ужо й добра.

На сцэне амфітэатра фальклёрныя калектывы з усяго раёну. Адчуваецца, што беларуская культура тут захавалася болей, чым дзе-небудзь у нашай вобласьці. Асабліва, калі бачу трох дзядзькоў-музыкаў з бубнам, скрыпкай і гармонікам. А яшчэ ўражвае тутэйшае вымаўленьне, песьні так і льюцца. Хораша.

У цяньку дзьве маладыя дзяўчыны прапаноўваюць набыць самаробную мэблю: столікі, табурэткі, вешакі, сьвечнікі. Мы разгаварыліся: робіць гэта ўсё бацька, а самі яны з Міру. Дзялюся ўражаньнямі з дзяўчатамі аб іх прыгожых мясьцінах, аднак яны не ў захапленьні. Кажуць, што ўсё роўна прыйдзе час і зьедуць адсюль. Праўда, самі, не заўважаючы, увесь час апавядаюць мне пра Мірскі замак розныя гісторыі й легенды, якія я ўчора не пачуў нават ад навукоўцаў.

■

На жаль, і гэты дзень скончыўся хутка. Па дарозе дамоў мы яшчэ раз заехалі на Сьвіцязь і пакупаліся. Усю дарогу ехалі моўчкі, напэўна, кожны заставіў тут нешта сваё, чым ні з кім не хацеў бы дзяліцца.

А да Карэліч усяго тры гадзіны, калі ехаць уласнай машынай з Горадні.

М. КАРНЕВІЧ.

